*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

**№ 158 (510)**

Серада, 2 верасня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



# Прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) прыняў рашэнне працягваць падрыхтоўку да агульнанацыянальнай акцыі пратэсту супраць падзення ўзроўню жыцця. Правесці акцыю прафсаюзы плануюць у пачатку лістапада.

## Калі ўлады не прыслухоўваюцца да голасу працоўных...

**Як вядома, свае патрабаванні да ўрада па "карэкціроўцы сацыяльна-эканамічнага курса ў інтарэсах працоўных" прафсаюзы і шэраг працоўных калектываў выклалі яшчэ ў маі на рэспубліканскім сходзе. Але, як паведамілі ў ФПБ, дагэтуль "ні адну з пазіцый рэзалюцыі сходу ў поўным аб'ёме ўлады не выканалі".**

**Працоўная сіла, адзначылі ў ФПБ, абясцэнілася да "крытычнага ўзроўню". Аплата працы ў Беларусі ніжэй, чым ва ўсіх суседніх дзяржавах. І нават гэты мізер не выплачваюць. Пры штомесячным росце цэн запазычанасць па выплаце заробкаў на 25 ліпеня склала 1 трыльён 704,4 мільярда рублёў. За паўгоддзе нявыплаты ўзраслі ў два разы. Цяжэй за ўсё, як вядома, сітуацыя ў сельскіх гаспадарках. У многіх з іх заробак не выплачваюць за тры, чатыры і больш месяцаў. Пачынаючы з сакавіка, запазычанасць па зарплаце мае 1751 гаспадарка з 2565.**

**Дата правядзення акцыі пратэсту будзе вызначана на наступным пасяджэнні прэзідыума ФПБ, якое запланавана на сярэдзіну верасня.**

**Наталля ВАЛАКІДА.**




Демократия по-белорусски

## Белорусским школьникам запрещено пользоваться дневниками, в которых нет фотографии первого президента

Многие белорусские мальчишки и девчонки, шедшие 31 августа в школу в праздничном настроении, вернулись домой со слезами на глазах. Учителя категорически потребовали пользоваться дневниками только с ликом президента А.Лукашенко. Возмущенные родители звонят в редакцию "Народной воли" и спрашивают: что делать?

Читатель В.Бабий, засомневавшись в рассказе дочери-шестиклассницы, сходил в СШ N170 Московского района столицы, где ему подтвердили, что такой циркуляр действительно поступил.

О незаконности требования чиновников министерства образования "Народная воля" уже печатала статью в N152 за 25 августа 1998 года. Ученик вправе пользоваться любым приобретенным дневником и... даже изготовлять его самостоятельно. Ведь в школу идут за знаниями, а не за оценками. Учет оценок ученика ведется в классном журнале. Дневник — это записная книжка школьника, заметки и зарисовки в которой он может делать по своему усмотрению. В том числе вклеивать фотографии тех, кем восхищается.

Навязывая силой дневники с портретом президента, учителя нарушают главную божью заповедь: "Не сотвори кумира".

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета 13-го созыва, секретарь парламентской комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью.**

## Игналинскую атомную закроют через 15 лет

Литовская газета "Республика" сообщает, что эксплуатация Игналинской атомной электростанции будет прекращена через 15 лет. Построенная еще в советские времена, она функционирует аналогично Чернобыльской, на которой в 1986 году произошла атомная катастрофа.

Как известно, опасаясь повторения чернобыльской трагедии, соседние страны торопят Литву с закрытием АЭС, но это балтийское государство очень зависит от станции, так как она вырабатывает 80 процентов всей электроэнергии.

Президент Литвы Валдас Адамкус заявил, что в настоящее время Игналинская АЭС не угрожает ни Литве, ни сопредельным странам. Швеция выделила Литве миллионы долларов для обеспечения безопасной эксплуатации атомной станции.

## Белорусский футбол обзавелся новым президентом

31 августа прошла внеочередная отчетно-выборная конференция Белорусской федерации футбола. Ключевым пунктом ее повестки было избрание нового президента БФФ. И ничего неожиданного здесь не произошло. Как мы и предсказывали, президентом БФФ стал председатель Государственного комитета по авиации Григорий Федоров, выдвинутый от городской федерации футбола. В результате открытого голосования он набрал 137 голосов из 140. Помимо этого был принят новый Устав БФФ, избран президиум федерации, а также переизбран исполком. Более подробно о том, как проходила конференция, читайте в следующем номере.

**Дмитрий ЕРМАК.**

## "Невероятный фестиваль" бродит по Европе и Азии

"Невероятным фестивалем" назвала компания "Филипс" действо, которое завершилось в минувшие выходные у столичного Дворца спорта. В течение трех дней гостями фестивальной площадки были группы "Палац", "Ляпис Трубецкой", "Браво", команды КВН, другие известные коллективы и исполнители.

Подобным образом в "Филипс" решили совместить приятное для минчан с полезным для себя, привлекая внимание к своей продукции. В особенности это касается новинок, которые поменяли ассортимент фирмы более чем на 20 процентов. Кстати, на нашем рынке данная компания появилась пять лет назад. Сейчас в Беларуси действуют 8 дилеров "Филипс", 180 торговых точек, представительства в Минске, Гомеле и Гродно. Об этом представители компании рассказали журналистам перед открытием "Невероятного фестиваля "Филипс". Причем Генеральный директор предприятия "Филипс—Беларусь" Роберт Батлер назвал белорусский рынок "интересным, многообещающим и быстрорастущим".

Наша столица — не единственная избранница данного фестиваля. С мая нынешнего года, когда был дан старт фестивальному марафону, он сделал уже 10 остановок в Казахстане, Кыргызстане и ряде крупных городов России. Из Минска "Невероятный фестиваль" переместится в Прибалтику.

**Оксана ПИВОВАР, БелТА.**



Дажыліся...

## У Гомелі ўведзены абмежаванні на продаж школьных сшыткаў

Напярэдадні новага навучальнага года Гомельскі гарвыканкам увёў абмежаванні на продаж школьных сшыткаў. Адзін пакупнік можа набыць не больш як 10 агульных і паўагульных, а таксама 50 вучнёўскіх сшыткаў. Абмежаванні будуць дзейнічаць да 15 кастрычніка.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Студэнты і навучэнцы Віцебскай вобласці каля месяца правядуць не за партамі, а на калгасных і саўгасных палях

ВНУ, тэхнікумы і ПТВ Віцебшчыны тэрмінова перакройваюць свае вучэбныя планы. 2 верасня 8795 студэнтаў і навучэнцаў па рашэнні аблвыканкама на месяц выедуць у сельскую мясцовасць. Выканаўчая ўлада апраўдвае гэта пагаршэннем пагодных умоў уборкі ўраджаю. Прычым раённым звенням "вертыкалі" дазволена адрываць ад вучобы нават старэйшых школьнікаў.

Між тым адна з мясцовых палітычных арганізацый — віцебская рада Партыі здаровага сэнсу — лічыць: "Сапраўдная прычына таго, што калгасныя праблемы вырашаюцца за кошт навучэнцаў, — не ў дрэнным надвор'і". "Не ўсім сёння падабаецца праца ў калгасе або саўгасе, — гаворыцца ў спецыяльнай заяве рады. — Нізкія расцэнкі і затрымкі выплаты заробленых грошай, а таксама бытавыя нелады ў вёсцы адварочваюць ад калгаснай павіннасці нават беспрацоўных".

Віцебскім аблвыканкамам, праўда, прадугледжана, што ў выпадку невыканання гаспадаркамі ўмоў іх дагавораў з навучальнымі ўстановамі маладыя людзі змогуць вярнуцца да навук раней, чым праз месяц.

**Яўген ГАЙ, БелаПАН.**

## На "Гарызонце" пачаўся выпуск новых мадэляў тэлевізараў

У беларускіх магазінах з'явіліся пяць новых мадэляў каляровых тэлевізараў, распрацаваных і выробленых на вытворчым аб'яднанні "Гарызонт". Бліжэйшым часам плануецца пачаць выпуск яшчэ чатырох новых мадэляў. Іх асаблівасцю з'яўляецца наяўнасць простай у абыходжанні сістэмы меню, функцыі "кадр у кадры" (накладанне малога субэкрана на асноўную выяву на экране), спецыяльнай акустычнай сістэмы з магутнай дынамікай, прызначанай для перадачы ніжніх частот гукавога дыяпазону і дазваляючай дабіцца высокай чысціні гучання, а таксама арыгінальны дызайн. Пры вырабе новых мадэляў выкарыстаны камплектуючыя сусветна вядомых фірм Philips, Siemens, Thomson, Samsung, Panasonic, якія забяспечваюць высокакантрастную, яркую і якасную выяву. Зборка і настройка тэлевізараў ажыццяўляецца на аўтаматычнай лініі Philips.

На думку спецыялістаў аб'яднання, тэлевізары "Гарызонт" па якасці ні ў чым не ўступаюць аналагічнай прадукцыі такіх вядучых замежных фірм, як Philips, Samsung, Sharp, LG. Адначасова яны ў 1,5—2 разы таннейшыя за імпартныя аналагі.

**БелаПАН.**

## У пачатку верасня ў Мінску будзе знаходзіцца місія Сусветнага банка па стратэгіі дапамогі Беларусі

Чакаецца, што ў пачатку верасня Мінск наведае чарговая місія Сусветнага банка па стратэгіі дапамогі Беларусі. Паводле звестак БелаПАН, місія СБ прыбывае для абмеркавання варыянтаў кароткатэрміновай рабочай праграмы і некаторых невялікіх праектаў.

Кіраўнік прадстаўніцтва СБ у Беларусі Дэвід Філіпс, які неўзабаве адбывае ў Вашынгтон, на нядаўняй сустрэчы з журналістамі выказаў думку, што "місія, магчыма, будзе мець мала тэм для абмеркавання". Як вядома, у красавіку гэтага года аперацыйны камітэт СБ прыняў рашэнне прыпыніць у рэспубліцы падрыхтоўку новых праектаў. "Хто ведае, можа, нават зараз, у апошні момант, можна будзе што-небудзь зрабіць для таго, каб выратаваць праграму Сусветнага банка. Але я асабіста не бачу, што можна нешта зрабіць", — сказаў Д.Філіпс.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка заявіў, што "мы ад МВФ нічога не мелі і не маем"

Эканамічныя праблемы, звязаныя з фінансавым крызісам у Расіі, яго ўплыў на партнёраў у Беларусі і Украіне і шляхі выйсця з крызісу былі адной з асноўных тэм у Крыме на перамовах прэзідэнтаў Беларусі, Украіны і выконваючага абавязкі прэм'ер-міністра Расіі.

Як вядома, Расія нядаўна атрымала буйны крэдыт МВФ, а Украіна вядзе перамовы для атрымання фінансавай дапамогі фонду. Што да пазіцыі беларускага кіраўніцтва, то ў Крыме прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выказаўся наконт гэтага наступным чынам: "Мы ад МВФ нічога не мелі і не маем: ні цэнта, ні долара. Таму іх права: хочуць прыехаць — няхай прыязджаюць, хочуць паехаць — калі ласка, аэрапорты адкрыты, мы іх ніколі не закрывалі, няхай едуць". На думку А.Лукашэнкі, пры вырашэнні сваіх эканамічных праблем дзяржавы павінны рабіць стаўку не на "ін'екцыі" міжнародных структур, а на ўласныя намаганні, а таксама супрацоўніцтва з суседнімі краінамі.

У той жа час, па звестках з пастаяннага прадстаўніцтва МВФ у Беларусі, у перыяд з 1993 па 1995 гады Міжнародным валютным фондам былі выдадзены крэдыты рэспубліцы па дзвюх праграмах — STF и "stand-by" — на агульную суму 270 мільёнаў долараў ЗША.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**



Актуально

## Впереди холода. Пожалуйста, согрейте...

*Не было наверное года, чтобы перед отопительным сезоном по белорусским просторам не ходили "от холода дрожащие" слухи. Мол, ожидают нас зимой чуть тепленькие батареи и летняя водичка в кране. Эта ежегодная осенняя паника так же неизбежна, как и летнее экономно-профилактическо-ремонтное отключение воды. Так же неизбежна, как и регулярные заверения жилищно-коммунальных служб и ведомств о том, что эту-то зиму мы обязательно переживем...*

**И** в начале этой осени министр жилищно-коммунального хозяйства Борис Васильевич БАТУРА на пресс-конференции рассказал журналистам о подготовке своего ведомства к работе в осенне-зимний период. Эта готовность включает в себя несколько показателей: запасы топлива, перекладка или замена тепловых сетей, замена котлов, приведение в порядок жилья.

В цифровом исчислении все выглядит нормально. К 15 октября в республике должен быть создан запас топочного мазута в 165 тыс.тонн. На сегодняшний день имеется 85 тыс.тонн (52%). Каменного угля — при задании 42 тыс. тонн — 29 тыс.тонн (70%). Создаются также запасы местных видов топлива, а это дрова, древесные отходы, торфобрикеты. В этом году было запланировано отремонтировать 102,7 км тепловых сетей, пока что заменено 62,1 км (60%). И практически все теплосети сейчас находятся в работе. Выполнен профилактический ремонт 1048 котельных (55% от задания).

Министр жилищно-коммунально хозяйства заверил, что этой зимой в наших квартирах температура воздуха будет не ниже 18 градусов. Жара не грозит, но как будто и не замерзнем. Хотя...

Не секрет, что сейчас во многих минских квартирах по вечерам и в другие часы суток идет не горячая, а летняя вода. На вопрос корреспондента "Народной воли" о причинах столь "прохладной вечерней водной политики" жилищно-коммунальной вотчины Борис Васильевич ответил следующее: "Что значит летняя вода? В Минске, как правило, вода горячая, даже перегревается. Санитарная норма горячей воды — 50—55 градусов. А температура теплоносителя для того, чтобы обеспечить такую норму, должна быть не менее 60 градусов. Для того чтобы выдерживать эти параметры, и ставятся приборы для регулирования горячей воды и температуры теплоносителя. В настоящее время жилищно-коммунальное хозяйство полностью не охвачено такими приборами регулирования. В этом году мы должны выйти на 100% оборудования приборами учета ЦТП и границы раздела".

Вот так прокомментировал министр реалии жизни. Может читатели дополнят его?

**Анна СОУСЬ.**

Слышали?

## Нацбанк отменил еще одну санкцию

Очередное решение, принятое советом директоров Национального банка, вступило в силу с 1 сентября. По сообщению управления информации центрального финансового учреждения страны, оно заключается в следующем. До сформирования в банках в полном объеме фонда обязательных резервов к ним не будут применяться санкции, предусмотренные Положением о порядке формирования коммерческими банками и кредитными учреждениями названного выше фонда, размещаемого в Нацбанке.

Это нововведение направлено на обеспечение стабильности функционирования банковской системы и создание условий для экономического роста. Отмена санкций, а также послабление в виде уменьшения отчислений в фонд до 16 процентов с 1 сентября нынешнего года свидетельствует о целенаправленной политике по стимулированию кредитования народного хозяйства, поиска инвестиций.

Как известно, в соответствии с документом за неуплату средств более пяти процентов от общей суммы, подлежащей внесению в этот фонд, с банка прежде взыскивался штраф. Эта санкция не позволяла банкам рационально планировать сроки и объемы перечислений в фонд обязательных резервов для его поэтапного наращивания и теряла свою стимулирующую роль.

**Татьяна СМИРНОВА, БелТА.**

Скандал

## Літоўскія ВПС маюць доказы парушэння беларускім ваенным самалётам паветранай прасторы Літвы

Як паведаміла БелаПАН Балтыйская служба навін (BNS), прадстаўнікі ВПС Літвы пацвердзілі, што ваенны самалёт Беларусі парушыў паветраную прастору Літвы і гэта зафіксавана ў памяці радараў. "Траса самалёта-парушальніка захоўваецца ў архівах ВПС", — сказаў BNS прадстаўнік ВПС, дадаўшы, што парушэнне назіралася "і візуальна".

Высокапастаўлены прадстаўнік Мінабароны Беларусі, які пажадаў застацца невядомым, у інтэрв'ю расійскаму інфармацыйнаму агенцтву "Інтэрфакс" адмаўляў, што самалёт беларускіх ВПС мог парушыць паветраную прастору Літвы. 25 жніўня ВПС і пагранпаліцыя Літвы зафіксавалі над Варанскім раёнам Літвы на вышыні 150 метраў самалёт маскіровачнай афарбоўкі, які заляцеў на літоўскую тэрыторыю на некалькі кіламетраў і праз дзве хвіліны вярнуўся на тэрыторыю Беларусі. Прадстаўнік беларускага ваеннага камандавання прызнаў, што ў гэты дзень самалёты сапраўды лёталі ў гэтым раёне непадалёк ад граніцы, але парушэнняў дапушчана не было.

Для расследавання гэтага інцыдэнту літоўскі ўрад сфарміраваў спецыяльную камісію, якая прадставіць сваё заключэнне праз 10 дзён. "Беларусы заўсёды адмаўляюць парушэнні", — гаворыць прадстаўнік ВПС Літвы. Гэта ўжо трэцяе парушэнне паветранай прасторы Літвы ў гэтым годзе.

**БелаПАН-BNS.**

*Аб пазіцыі беларускага боку паведамлялася ў №157 нашай газеты.*

Наши кулибины

## Ветряк Анатолия Пашкевича. Энергетический...



Своим Кулибиным называют в колхозе "Заря" Каменецкого района электрослесаря Анатолия Пашкевича. Со школьной скамьи он стал увлекаться радиолюбительством и электротехникой, затем совершенствовал знания на электромеханическом факультете Пружанского совхоза-техникума, в армии служил в радиомастерской. Все это и дало надежную профессиональную подготовку.

В свободное время Анатолий также занимается любимым делом. Изготавливает всевозможные приборы, ремонтирует разные агрегаты. А год назад удивил односельчан невиданной доселе конструкцией. На деревенском фоне появился ветряк, который стал подавать бесплатную электроэнергию к дому мастера. Мощность его пока небольшая — два киловатта. Но этого хватает, чтобы дом освещался и работал телевизор.

В будущем Анатолий думает его усовершенствовать и довести мощность до 10 киловатт. Тогда собственной электроэнергии хватит для всех бытовых приборов, которые есть в доме.

**На снимках:** *Анатолий Пашкевич с аппаратом для запуска автомобилей в морозную погоду; ветряк в деревне Омельянец.*

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**



*Жизнь, как ее видит журналист Анна СОУСЬ*



# Тугое пеленание

Вы знаете, что такое тугое пеленание? Это когда маленького ребеночка плотно перевязывают пеленками — чтобы не дергался и чтобы ножки ровненькие были, а ручки прижимают плотно-плотно к телу — чтобы не будил себя во сне. Запелёнутый ребенок напоминает неподвижный тугой сверток с единственным маленьким отверстием, из которого видны пережатые пухлые покрасневшие щечки.

Так пеленали меня, так пеленали вас, так пеленали наших родителей. Рассказывают, что когда-то в деревнях многие дети пребывали в "сверточном" состоянии аж до годовалого возраста. И тому были причины — "связанный" ребенок не мешал маме заниматься хозяйством.

С самых первых дней наши движения были строго ограничены и упорядочены. И "шаг вправо, шаг влево" был невозможен, да мы его и не делали. Ходили строем, говорили одинаково, не высовывались, придерживались "правильной" схемы поведения. И потому даже внешне резко отличались от всех "несоветских" — выражением лица, движениями, манерами, цветом одежды и даже запахом духов. От заработанных в детстве комплексов "тугого пеленания" многие из нас не могут освободиться и до сих пор.

...С непроницаемым каменным ликом, плотно сжав губы, сложив на животе руки и сдвинув колени, едет в метро "серая мышка" неопределенного возраста...

...От неуверенности в себе и страха перемен работяга годами горбатится на заводе за жалкую пайку. Туго закручены гайки — не идет он бастовать, не бросает опостылевшую работу, не ищет лучшей...

...Годами не может раскрепоститься в супружеской постели жена "со стажем". И невдомек ей, что, устав от той пресной стандартной позы, которую современные подростки шутливо называют "мама с папой", ее муж давно уже нашел более разнообразные удовольствия на стороне...

...Самое "тугое пеленание" сохраняется до сих пор в силовых структурах. Оно так же незыблемо, как и сохранившиеся в современной армии портянки времен гражданской войны. Слепое подчинение любому приказу доходит порой до абсурда. Может, потому такие "туго запелёнутые" лица у многих солдат и милиционеров, особенно младшего звена...

...Тверже всех стояло, стоит и будет стоять на своем старшее поколение. Они помнят это волнующее ощущение строевого шага. Их сознание до сих пор в жестких тисках представлений, вроде: "Только бы не было войны", "От нас ничего не зависит", "Есть хороший государь, только ему мешают плохие бояре", "Не высовывайся"...

Попробуйте поспать, плотно прижав руки к телу. Это практически невозможно. Известно, что одной из пыток гулаговских палачей было именно это — арестант должен был спать с вытянутыми поверх одеяла руками.

Порой мне кажется, что Беларусь когда-то туго-туго запеленали в одеяло покорности и страха. Перекрыли безжалостными жгутами потоки крови, насыщенные живительным кислородом, и потому так вяло течет наша усталая и больная кровь...

Но есть и "свободное пеленание". Это громкий непринужденный смех даже в неподходящем месте, это загадочный нетабуированный интимный мир двоих, это нормальное отношение ко всем, не похожим на тебя, это умение громко сказать "нет", это уникальность и неповторимость каждого человека, это свобода выбора, это просто свобода...

Большинство нынешних младенцев не знает, что такое тугое пеленание. Их мамам уже известно, что ребенку ни в коем случае нельзя пеленать ножки вместе, потому что это в некоторых случаях может привести к вывиху бедра. С самого рождения большинство малышей не знает пеленок, на них сразу надевают красивые костюмчики, их ноги широко раздвинуты спасительными памперсами. Новое поколение весело гулит, свободно дрыгает ножками и ручками. Им разрешено гораздо больше, чем разрешалось когда-то их мамам, папам, бабушкам и дедушкам. Наверное, и в своей будущей жизни они будут более свободными...

**Сітуацыя**

# Нацыя вымірае, а Акадэмія навук вырашыла пачакаць...

Нацыянальная акадэмія навук Беларусі не падтрымала ініцыятыву пачаць падрыхтоўку міжнароднага кангрэса "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі". Галоўны аргумент — яшчэ не надышоў час разглядаць гэтую праблему. "*Акадэмія навук Беларусі лічыць, што найбольш аб'ектыўныя даныя аб дэмаграфічнай сітуацыі ў Беларусі могуць быць атрыманыя толькі пасля правядзення перапісу насельніцтва, плануемага на 1999 год. І рэкамендуе арганізацыю канферэнцыі здзейсніць па яго выніках*", — гаворыцца ў адказе.

Пакуль акадэмічнае кіраўніцтва чакае "больш аб'ектыўных" карцінак, у ініцыятараў вырашэння дэмаграфічнага пытання галаўны боль ад сённяшняй рэальнасці. Па даных Міністэрства статыстыкі, смяротнасць у краіне, пачынаючы з 1993 года, стабільна перавышае нараджальнасць. У мінулым годзе колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася яшчэ на 32,3 тысячы чалавек. З 1990 года сярэдняя працягласць жыцця скарацілася з 71,1 года да 68,5. На 100 родаў у рэспубліцы прыпадае 168 абортаў, усяго за мінулы год іх колькасць склала 152,7 тысяч.

— Сёння з трох зачатых дзяцей дваіх мы забіваем падчас абортаў, — адзначыў старшыня аргкамітэта кангрэса прафесар Міхась Цяўлоўскі. — У нас па сутнасці **эмбрыянальны генацыд** у той час, калі ідзе працэс вымірання народа. А Акадэмія навук прапанавала фактычна абмеркаваць вынікі плануемага перапісу, а не дэмаграфічных праблем Беларусі. Гэта вельмі вузка, прычым будзе чыста адміністрацыйная палітыка правядзення такога актуальнага мерапрыемства. Таму мы вырашылі правесці кангрэс незалежна ад пазіцыі Нацыянальнай акадэміі навук, якая адмежавалася ад яго.

Ініцыятарамі кангрэса сталі прадстаўнікі Міжнароднай акадэміі экалогіі і Фонду абароны жыцця ля яго вытокаў і генетычнага кода народа. У склад аргкамітэта ўвайшлі таксама спецыялісты міністэрстваў аховы здароўя, статыстыкі, працы, прыродных рэсурсаў і іншых устаноў і арганізацый. Удзел у кангрэсе будуць браць і прадстаўнікі рэлігійных канфесій.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

# У Брэсцкай вобласці ўзровень падрыхтоўкі абітурыентаў сельскіх школ значна ніжэйшы, чым гарадскіх

Вынікі экзаменацыйнай кампаніі ў ВНУ Брэсцкай вобласці сведчаць, што ўзровень падрыхтоўкі выпускнікоў сельскіх школ значна ніжэйшы, чым гарадскіх. Так, з 650 чалавек, якія паступілі ў Брэсцкі дзяржуніверсітэт, толькі 167 з сельскай мясцовасці; у Політэхнічны інстытут выпускнікоў сельскіх школ паступіла таксама мала — 112 з 500.

Засмуцілі ў гэтым годзе членаў прыёмных камісій і медалісты: з 393 выпускнікоў школ, якія паступалі ў Брэсцкі дзяржуніверсітэт з залатым ці сярэбраным медалём, 207 не пацвердзілі свае адзнакі, а 52 чалавекі атрымалі на ўступных экзаменах "двойкі". У Політэхнічным інстытуце на ўступных экзаменах нездавальняючыя адзнакі атрымалі 20 з 217 абітурыентаў-выдатнікаў.

Вельмі нізкім аказаўся конкурс на спецыяльнасці, звязаныя з прыродазнаўчымі навукамі, найбольш высокім — на спецыяльнасці фінансава-эканамічнага профілю.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Я прапаную...**

# Дайце ім слова!

У ЛіМе паведамлялася, што 5 жніўня ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы адбылася сустрэча прэзідэнта з "членамі творчага Саюза беларускіх пісьменнікаў", да якой апошнія "рыхтаваліся амаль чатыры гады". У нататцы В.Шчадрынай быў пералічаны шэраг пытанняў, што ўздымаліся на сустрэчы, пры гэтым не прыводзілася амаль ніводнага пісьменніцкага слова, калі не лічыць фрагмента з выступлення старшыні Саюза пісьменнікаў У.Някляева. Няўжо за апошнія "амаль чатыры гады" пісьменнікі не знайшлі што сказаць галаве дзяржавы?

Паколькі пісьменнікі складаюць вялікую частку нацыянальнай эліты і з'яўляюцца "інжынерамі чалавечых душ" — беларускіх душ, хацелася б пачуць іх голас адносна цяперашняга лёсу нашай нацыянальнай душы. Хацелася б ведаць, што думаюць І.Навуменка і Э.Скобелеў, Б.Спрынчан і Н.Гілевіч, І.Шамякін і Р.Барадулін, С.Законнікаў і Г.Пашкоў адносна той стаўбавой дарогі, што акрэсліла для беларускай душы наша цяперашняе кіраўніцтва, якое адмаўляецца "весці свой народ за цывілізаваным светам". А толькі — у Расію, бо "мы же русские". У Расію, дзе празрыстыя воды крынічнай беларускасці бясследна растануць у акіяне блізкароднаснага русізму.

Толькі дэмагог-папуліст ды манкурт могуць сцвярджаць, што сёння нішто не пагражае беларускасці, а прэзідэнт клапоціцца аб развіцці нацыянальнай мовы, стварэнні нацыянальнай школы, лёсе нацыянальнай культуры. У той час, як у краіне дзень пры дні ўсімі спосабамі ўвачавідкі душыцца беларускасць, уладальнікі "кіруючых крэслаў" сцвярджаюць: "Працэс беларусізацыі пайшоў".

Дык хацелася б пасля той сустрэчы пачуць выказванні нашых славутых "інжынераў чалавечых душ" у поўны голас: што яны — прэзідэнту, што ім — прэзідэнт... Дайце стэнаграму той гутаркі!

**В.СКАРАХОД, пенсіянер.**
Мінск.

***Ад рэдакцыі.*** *Шаноўны В.Скараход! Што тычыцца стэнаграмы размовы, якая адбылася падчас сустрэчы прэзідэнта Беларусі з групай пісьменнікаў, то мы не маем яе ў сваім распараджэнні і апублікаваць не можам. А вось прапанову запрасіць майстроў пяра выказацца па закранутых Вамі пытаннях на старонках "Народнай волі" лічым слушнай.*

*Калі ласка, дарагія пісьменнікі! Будзем рады прадаставіць свае старонкі для Вашых выказванняў.*

**Голос из неволи**

# Наше поколение уже нельзя уничтожить...

Всего два с половиной года прошло с начала минской весны-96. Это время навсегда войдет в белорусскую историю как период, давший надежду на возможность падения режима, уже твердо обозначившего черты своей тоталитарности. И еще эта весна родила поколение молодых белорусов, поставивших целью своей жизни вернуть нам Беларусь — нашу, истинную.

Позже приходили новые люди, возникали новые имена. Но пережившие и прочувствовавшие на себе ту весну составили костяк молодежного сопротивления диктатуре, и мы вправе назвать их Поколение-96.

Весна того года во многих из нас пробудила новые, неизведанные ранее чувства, и особенно — чувство единства и ответственности за будущее. Она, эта весна, взрослила нас с каждым прожитым днем, с каждой новой акцией, с каждой дубинкой, обрушивавшейся на наши головы. И в один прекрасный момент мы перестали быть просто протестующей молодежью, ибо уразумели, что именно мы и есть та сила, которая приблизит светлый день Батьковщины. Мы стали взрослыми.

ОНИ почувствовали это и немедленно начали свою "борьбу за молодежь", в основе которой была реанимация давно почившей комсомольской организации. Так был создан БПСМ. Но ни громкие обещания, ни щедрые посулы не подействовали, "борьба за молодежь" властителями страны была проиграна начисто. И уже невозможно вернуть в "домашнее" русло тысячи парней и девчат, протестующих и проявляющих свой протест, разумеется, в цивилизованных формах.

Диктатуре впору было **бить** тревогу, но она поступила проще: она начала **бить** нас. На уличных акциях и в милицейских участках нам причиняли физическую боль, а в местах учебы или работы — моральную. Нас увольняли и исключали из учебных заведений, но этого ИМ показалось мало. И ОНИ открыли для нас двери тюрем. Действительно, нет более убедительного способа застращать, чем показать: мол, будете "брыкаться" — получите небо в клетку.

...Весной 97-го сотни минчан и приезжих, в большинстве студенты, стали "клиентами" Минского спецприемника на ул.Окрестина. Жизнь окрасилась в темные тюремные тона, для многих стала невыносимой. Учиться на Родине было уже невозможно, и некоторые, выйдя из тюрьмы, выбрали свободную учебу в свободной Европе. Но лишь затем, чтобы спустя пять лет вернуться в Беларусь и продолжить начатое.

Между тем молодежное сопротивление при жестком давлении властей обретало и новые, подпольные черты. Это вывешивание в людных местах бело-красно-белых флагов, расклейка листовок, "граффити" на стенах домов и т.д.

Ответ диктатуры опять же был прост, как дубина: в ход пошел Уголовный кодекс. И мы увидели: в далеком уже 1953-м Сталин умер не весь, он здесь, и дыхание сатрапа слышно все отчетливей. Оно явно ощущалось во время многочисленных пресс-конференций и селекторных совещаний главы нашего государства.

Срок за стихотворение Славомиру Адамовичу заставил еще раз взглянуть на календарь: неужто 1997-й, а не 1937-й? Были брошены в СИЗО Павел Шеремет, Дима Завадский, Вадим Лабкович и его тёзка Кабанчук, Паша Северинец...

Я же, пробыв в СИЗО 9 месяцев, был отправлен в исправительно-трудовую колонию. А скольким же еще молодым людям предстоит пройти испытание лагерями за свои мысли и убеждения, которые всего лишь перпендикулярны мыслям властей!

Диктатура объявила нам войну. Но ОНИ — там, наверху — так и не поняли одного: эта война будет проиграна ими. Куда бы нас ни упрятывали, мы ведь все равно вернемся. Не будет нас — будут другие. Наше поколение уже нельзя уничтожить, нельзя вылепить из нас верных ленинцев-лукашистов. В конце концов, справедливость восторжествует, и кончится их "ночь длинных ножей". И будет предъявлен счет сегодняшним нашим преследователям за каждую слезу наших жен и матерей, за каждую разбитую голову, за каждую сломанную жизнь.

Белорусский вариант Нюрнбергского процесса неизбежен!

**Алексей ШИДЛОВСКИЙ, заключенный.**

УЖ 15/1.

**Стоп-кадр**

*Утренняя рыбалка.*

**Почти фельетон**

# МИД уполномочен заявить...

Мир в панике. Президенты многих стран не знают, что ответить белорусскому МИДу и вообще, как жить дальше. Говорят, даже следователи из бригады спецпрокурора Кеннета Старра, до сих пор поглощенные амурными связями Билла с прекрасной Моникой, и те с головой окунулись в высказывания главного нашего мидовца. А профессора Гарварда и Кембриджа срочно разрабатывают новый спецкурс для студентов под названием "Канализационная дипломатия Ивана Ивановича".

Речь идет о высказываниях министра иностранных дел Беларуси Ивана Ивановича Антоновича, рожденных экспромтом в ходе его дружеской беседы по телефону с читателями газеты "Рэспубліка" и опубликованных недавно этим изданием под броским заголовком: "МИД уполномочен заявить...". Они, эти высказывания, открывают глаза буквально всем в мире и тыкают всех носом в их прежние заблуждения.

Я, как один из представителей славного электората нашей власти, трижды перечитал эти глубочайшие высказывания, которые переполняют мое сердце гордостью за страну и ее руководителей.

Я как-то и сам смекнул: "А чего это американский Госдеп уже давненько не делал заявлений по поводу нарушения прав человека в Беларуси?". Молчит как в рот воды набравши. Оказывается, поджали хвост не зря. Изоляция, которую устраивают нам, может бумерангом ляснуть и по ним. Об этом прямо заявил Иван Иванович. На этот раз он словно позабыл о своей прежней витиеватости суждений и врезал империалистам напрямик, как простой деревенский мужик. Он так и сказал, цитирую: "Хочу обратить внимание на то, что всякие "блокады", включая экономические, — оружие обоюдоострое. В конкретном случае, "блокируй" Запад нашу страну, возникнет масса проблем у того же Запада и его партнеров". Смекнули? Пусть только попробуют... Говорят, Клинтон и Коль в шоке от одной мысли о возможных ответных шагах белорусской стороны.

Как и подобает настоящему дипломату, Иван Иванович не стал распространяться о наших ответных мерах. Но их нетрудно предугадать. Лично я отчетливо вижу некоторые из них. Мы ведь можем и не продать им наше синее молоко жирностью 1,5 процента. Где они тогда его возьмут, если захотят? Такое молоко есть только у нас. Они, конечно, могут попытаться разбавить водой собственное. Но где они возьмут "чернобыльскую воду"? Я уже не говорю про кровянку, ливерку и суповой набор, состоящий из одних костей. Ходят слухи, что их пенсионеры уже проводят митинги и шествия, требуя от правительства западных стран, чтобы срочно закупили эти белорусские деликатесы. Стоит только нам наложить эмбарго на экспорт этих продуктов, как трудящиеся Запада могут выйти и на рельсы, перекрыть движение поездов между Парижем и Бонном, Нью-Йорком и Вашингтоном... Вот так-то, господа!

Если это свое высказывание Иван Иванович оформил с помощью прямолинейной солдатской лексики, то другое он облачил в форму изысканного, элегантно-утонченного намека. Коснувшись канализационной эпопеи в Дроздах в частности и международных связей вообще, он особо подчеркнул вежливость и тактичность белорусской стороны. "Мы стараемся делать это максимально тактично", — заявил главный мидовец.

И действительно. Ведь ни одному послу рубашку не порвали, пинок под задницу не дали... А могло бы быть и похуже. Они, видимо, подзабыли историю с Шереметом... Запамятовали, где сейчас депутат парламента Климов, дважды Герой Социалистического Труда Старовойтов... Могли бы и их послов уложить на нары. А то ведь только заблокировали вход в резиденцию, словом, обошлись с ними "максимально тактично", а они — на дыбы.

Особенно мне понравились рассуждения Ивана Ивановича о кознях американцев против нашей страны и ее руководства. Эти янки не могут нам простить того, что "мы можем критически относиться к той или иной особенности, специфике американской внешней политики". Никто не может показать им фигу по этому поводу, а мы можем. Мы вообще очень хорошо освоили показ фиг всему миру. Но наша фига их лишь раздражает. Больше всего им не нравится вот что. Перехожу к цитированию Ивана Ивановича: "Мы противимся политике монополизма, которая иногда проскальзывает в позиции Соединенных Штатов, желающих подчинить весь мир только своей воле, своей программе действий, своему видению перспективы".

Сообразили, что к чему? Они пытаются заставить весь мир плясать под их дудку. И почти весь мир уже делает притопы и прихлопы по команде дедушки Сэма. Даже Россия прогибается под звуки саксофона Клинтона. Пока держатся лишь Ирак и Куба. Но на пути империалистов встала Беларусь со своим народным президентом. Янкам сказали: "Поиграли и хватит, мы плясать под вашу дудку не будем". И показали им фигу. Ну, тут они и разозлились, ихний Госдеп начал строчить заявления по поводу нарушения прав человека в Беларуси. А мы в ответ турнули их посла и его западноевропейских дружков из Дроздов. Причем сделали это, как говорит Иван Иванович, "максимально тактично", то есть заколотили вход в резиденцию. Никто даже не пытался огреть послов доской. Все было "максимально тактично". А они взъелись на нас.

И сейчас "спешат воспользоваться каждым конкретным вопросом... для обострения обстановки". Цитирую дальше Ивана Ивановича: "Беларусь наказывают за то, что она развивается не по программе Международного валютного фонда, а сама ищет своих союзников и в первую очередь — в лице России. Это наказание хотят сделать заметным для всей Европы, для всего мира: мол, смотрите, как мы обращаемся с теми, кто нас не слушает. Поэтому вопрос Дроздов — вопрос большой политики".

Какое богатство мысли! Попытаюсь разжевать ее и переложить на житейский язык. Стало быть, ихний этот валютный фонд пытается всучить нам миллионы долларов. Но на кой черт они нам? Нам вполне хватает и "зайчат". Поэтому они и затеяли "многоходовку" с Дроздами, чтобы запугать всех в мире. И добились своего. Вон даже Россия струсила и сама побежала в валютный фонд. Вызвал Ельцин Чубайса и говорит: "Чубайс, ты видишь, что они делают с Беларусью? Так что езжай в этот фонд и бери столько долларов, сколько отвалят. Не отказывайся ни от одной сотни. А то мы ведь можем и не выдержать такого давления, как белорусы".

И поехал Чубайс в Америку и привез оттуда аж двадцать миллиардов долларов. И что теперь делать с ними, никто не знает. Отдай шахтерам, так те ведь могут и с рельсов уйти, и перестать стучать касками перед Белым домом. А что тогда показывать по телевизору? Народ же требует зрелищ!

Хотя, конечно, Ельцин испугался зря. Ну сделали Лукашенко и всю его команду невыездными, ну и что? Ой, как напугали! Как поет Толик Полотно: "А на фига нам эта заграница?" Ну не увидит наш "батька" вблизи их стоэтажные "биллинги", так в ответ не покажет им 30-километровую зону. К тому же Александр Григорьевич уже сообщил, что он с удовольствием будет ездить с визитом в Брагинский и Хойникский районы. Не пускают в Нью-Йорк и Париж? А мы их не пригласим на дожинки в Несвижский район. Лужкова и губернатора Мурманской области пригласим, а Клинтона нет. Если бы они такие же санкции выдвинули и против Ельцина, так мы его пригласили бы с визитом в те же Хойники или Брагин. Так что зря он испугался и взял ту двадцатимиллиардную подачку.

Однако почитаем Ивана Ивановича: "Мы не искали конфликта в Дроздах и не хотели его. Но тут вопрос чести и достоинства нашей республики, — говорит он и далее добавляет: — Я, как министр иностранных дел, отвечаю не только за урегулирование подобных конфликтов, но и определенным образом за достоинство своей страны, за наш национальный интерес".

Так вот почему дали, образно говоря, пинок под зад послам. Чтобы поднять "честь и достоинство нашей республики". А как же иначе их поднять-то?

Нельзя обойти молчанием тех несознательных читателей, которые требовали отставки Ивана Ивановича. Им он дал глубокоисчерпывающий ответ: "Министром человек становится не для того, чтобы подавать в отставку при каждом кризисе". Это на загнивающем Западе, если ты провалил какое-то дело, то спеши подать заявление об уходе, иначе турнут с треском. У нас же главное не компетентность, не умение хорошо решать проблемы, а... Ой, что это я сам да сам. Разве можно сказать лучше Ивана Ивановича: "В отставку обычно... министр подает, когда его убеждения... расходятся с позицией президента... В данном случае мои убеждения не расходятся с позицией президента", — разъясняет министр Антонович.

Словом, главное — это колебаться в такт с линией президента. Все остальное — ерунда. Иван Иванович чистосердечно признается, что он не сильно беспокоится о личной репутации.

И правильно. А зачем? Главное ведь — держаться за линию президента, как пьяный за забор.

И напоследок. Или на посошок? Как правильно? Снова о несознательных читателях. Некоторые, как назойливые мухи, приставали к министру: как улучшить отношения с Западом? Кто виноват в создании напряженности с Европой?..

Далась же им эта Европа! Хоть бы кто поинтересовался российскими регионами. Ведь "батька" принимает российских губернаторов... А у них на уме Запад. Вот уж действительно: сколько волка ни корми, а он в лес глядит. Так и эти. Сколько ты им ни рассказывай про Россию (а "батька" это делает постоянно и красиво), а они тебе все про Европу. Поэтому считаю, что наш МИД должен устами Ивана Ивановича сделать еще одно заявление — о всепоголовном и бесповоротном повороте на восток, к России.

**Записал рассуждения одного из представителей электората власти Андрей РУСАКОВИЧ.**

**Як жывеш, глыбінка?**

# Пінчане, якія за свае грошы пабудавалі кватэры, вымушаныя плаціць за іх абслугоўванне ў два разы больш

У Пінску існуе даволі значная розніца паміж аплатай камунальных паслуг жыхарамі дамоў жыллёва-будаўнічых кааператываў і дамоў камунальнай уласнасці. Напрыклад, за адзін квадратны метр у дзевяціпавярховым доме ЖБК трэба плаціць 2888 рублёў, у той час як жыхар камунальнага дома за такую ж самую кватэру плаціць 1346 рублёў. Тое ж самае і з пяціпавярховымі дамамі — 2316 рублёў супраць 1224-х. Такі падзел, па сутнасці, не мае ніякіх разумных падстаў. Людзі, якія будавалі кватэры за свае ўласныя грошы, не просячы ў дзяржавы міласціны, аказаліся яшчэ і павіннымі гэтай самай дзяржаве! Цікава, што ў Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай абласцях і ў Мінску аплата за кватэры для ўсіх аднолькавая, а розніца часткова пакрываецца за кошт мясцовага бюджэту і часткова — за кошт вытворчай дзейнасці жыллёва-эксплуатацыйных служб. Трэба адзначыць, што пінчане, якія жывуць у дамах жыллёва-будаўнічых кааператываў, ужо неаднойчы спрабавалі дабіцца справядлівасці. У 1994 годзе яны адмовіліся аплачваць камунальныя паслугі, стварылі каардынацыйны Савет, праводзілі перамовы з гарадскім і аблвыканкамам, але безвынікова. Справа пачала рухацца толькі перад выбарамі ў Вярхоўны Савет 13-га склікання і першым лукашэнкаўскім рэферэндумам. Улады зразумелі, што, не вырашыўшы пытанне з аплатай ЖБК, яны могуць згубіць шмат галасоў выбаршчыкаў, таму тарыфы часова выраўнялі. Але на пачатку 1997 года, як толькі скончыліся выбары і рэферэндумы, датацыі адмянілі і аплата за кватэры ЖБК зноў стала ўдвая большай.

Зноў вырашылі стварыць каардынацыйны Савет, накіравалі лісты ў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты. У першым адказе, які прыйшоў з гарвыканкама, у прыватнасці, гаворыцца: "Паведамляем вам, што абслугоўванне дамоў ЖБК ажыццяўляецца па дамове на падставе аплаты кааператывам фактычных выдаткаў з улікам дзеючых коштаў і тарыфаў. Аплата за абслугоўванне кааператыўных дамоў разлічваецца згодна з адпаведнымі метадычнымі рэкамендацыямі Савета міністраў ад 1969 года. Пінскі гарвыканкам прапаноўваў Міністэрству жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі і Брэсцкаму аблвыканкаму выраўняць аплату за кватэры ў дамах ЖБК і дзяржаўнага жыллёвага фонду, аднак пытанне да гэтага часу застаецца нявырашаным".

Гэта фактычна азначае, што гарвыканкам зняў з сябе адказнасць за вырашэнне гэтага пытання. Затым прыйшоў адказ з Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі: "З мэтай забеспячэння сацыяльнай роўнасці ў аплаце жыллёва-камунальных паслуг Міністэрства просіць Брэсцкі аблвыканкам разгледзець пытанне аб устанаўленні разлікаў жыллёва-эксплуатацыйных арганізацый мясцовых Саветаў з жыллёва-будаўнічымі кааператывамі за абслугоўванне дамоў па дзеючых стаўках кватэрнай аплаты".

Такім чынам, міністэрства таксама "папрасіла" і адышло ад спраў, як быццам яно не можа проста загадаць. Атрымліваецца, што галоўны віноўнік — аблвыканкам, які да гэтага часу адказу не дае. Сябры каардынацыйнага Савета кажуць, што ўлады проста чакаюць наступных выбараў, каб зноў кінуць падачку электарату. Але ці не занадта доўга прыйдзецца чакаць, бо, па словах "всенародно избранного", прэзідэнтам ён будзе 12 гадоў?

# Пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць у эканоміцы Беларусі за першую палову 1998 года павялічылася на 43 працэнты

На 1 ліпеня 1998 года пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць у беларускай эканоміцы склала 49,3 трыльёна рублёў (у тым ліку больш за тры месяцы — 31,8 трыльёна), пратэрмінаваная крэдыторская — 67,6 трыльёна рублёў (з іх больш за тры месяцы — 43,6 трыльёна). Гэтыя лічбы прыводзіць у сваёй апошняй справаздачы Міністэрства статыстыкі і аналізу рэспублікі. Такім чынам, рост пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці за першае паўгоддзе склаў 18 працэнтаў, крэдыторскай — 43 працэнты.

Грашовыя сродкі на рахунках прадпрыемстваў пакрывалі пратэрмінаваную крэдыторскую запазычанасць толькі на 27,2 працэнта. Прычым у параўнанні з пачаткам года плацёжаздольнасць прадпрыемстваў амаль усіх галін беларускай эканомікі пагоршылася. Калі па стане на 1 студзеня 1998 года грашовыя сродкі на рахунках прадпрыемстваў прамысловасці пакрывалі пратэрмінаваную крэдыторскую запазычанасць на 20,8 працэнта, то на 1 ліпеня — толькі на 19,7 працэнта. На транспарце гэтыя паказчыкі складалі адпаведна 39,9 і 21,7 працэнта, у будаўніцтве — 115,1 і 87,0 працэнта, у гандлі і грамадскім харчаванні — 96,8 і 89,2 працэнта, у жыллёва-камунальнай гаспадарцы — 12,3 і 9,0 працэнта. І толькі ў сельскай гаспадарцы Беларусі ліпеньскі паказчык вышэй за студзеньскі (рост з 9,0 да 10,8 працэнта), але спецыялісты звязваюць гэта з дзяржаўнымі ўліваннямі ў аграпрамысловы комплекс напярэдадні ўборачнай.

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**

# На Палессі памятаюць аб акупацыі савецкімі войскамі Чэхаславакіі

У дзень трыццатых угодкаў акупацыі Чэхаславакіі шматлікія пінчане, што ішлі па цэнтральнай вуліцы горада, маглі сустрэць сталага чалавека, які нёс плакат з надпісам наступнага зместу: "Сёння спаўняецца 30 год з дня пачатку акупацыі савецкімі войскамі Чэхаславакіі. Камуністы-злачынцы ніколі не пакаюцца ў гэтым. Я ад свайго імя і ад імя беларускага народа прашу прабачэння ў народаў Чэхіі і Славакіі за злачынствы, зробленыя савецкім рэжымам супраць гэтых народаў. Жыве вольная Чэхія! Жыве вольная Славакія! Жыве вольная Беларусь!".

Адзіным, хто ў Пінску публічна нагадаў ягоным жыхарам пра ўгодкі акупацыі, аказаўся пяцідзесяцігадовы рабочы мясцовага хлебазавода Сяргей Целяхан. На маё пытанне аб тым, чаму ён вырашыў выйсці ў гэты дзень на вуліцы з пакаяннем, спадар Целяхан адказаў наступнае: "Я служыў у той час у Савецкай арміі і мог зрабіць тыя ж самыя злачынствы, але, дзякуючы Богу, мяне туды не накіравалі. Калі ж надышоў час і стала магчымым свабодна выказваць свае думкі, я вырашыў, што нам трэба прасіць прабачэння ў гэтых народаў".

Спадар Целяхан паведаміў таксама, што не з'яўляецца сябрам ніякай партыі, але што ён — цвёрды прыхільнік ідэалаў дэмакратыі, свабоды і незалежнасці Беларусі. Што да санкцыянаванасці сваёй акцыі, то ён не паведамляў уладам пра яе, не прасіў ніякага дазволу, але з міліцэйскага УАЗіка, што неўзабаве апынуўся побач, ніхто нават не выйшаў. Затое шмат хто з ідучых насустрач людзей спыняўся і ўважліва прачытваў тэкст на плакаце. Амаль усе падыходзячыя пінчане падтрымалі спадара Целяхана і згадзіліся, што акупацыя Чэхаславакіі была сапраўдным злачынствам і нам неабходна пра гэта памятаць.

Пасля заканчэння акцыі я запытаў спадара Целяхана, ці мела, на яго думку, тое, што ён зрабіў, які-небудзь плён. У адказ прагучала наступнае: "Ніхто з тых, хто падышоў да мяне, не сказаў нічога дрэннага — усе мяне падтрымалі. І гэтыя людзі, спадзяюся, яшчэ раз задумаюцца аб сапраўднай сутнасці камуністычнага рэжыму і зразумеюць магчымыя наступствы паўторнага ўсталявання падобнага рэжыму на Беларусі".

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ.**

